УДК 882.6.09(035.5)
ББК 83.3(4Беи)я2
М 25

Маракоў Л.
М 25 Вынішчэнне: Рэпрэсаваныя беларускія літаратары: Даведнік
Мн.: Літ. - маст. фонд «Неман», 2000. – 200 с.
ISBN 985-6555-02-9

У даведніку Леаніда Маракова прыводзяцца ўпершыню сабраныя аўтарам звесткі пра літаратараў Беларусі, якіх рэпрэсавалі ўлады царскай Расіі і савецкай дзяржавы, польскія, нямецкія і іншыя рэжымы.

УДК 882.6.09(035.5)
ББК 83.3(4Беи)я2

ISBN 985-6555-02-9




## ВЫНІШЧЭННЕ[1]

**29 кастрычніка 1937 года**, у дзень Ленінскага камсамола і, відаць, у гонар 20-годдзя кастрычніцкага перавароту, у сталіцы Беларусі Мінску адбылася акцыя, аналагаў якой яшчэ не ведала гісторыя чалавецтва. На працягу ночы былі расстраляны 20 (!) беларускіх і яўрэйскіх літаратараў. Ахвярамі сталінскага генацыду сталі: крытык **Якаў Бранштэйн** (39-ць гадоў), журналіст **Віктар Вайноў** (Войнаў) (33), паэт **Анатоль Вольны** (34), празаік **Платон Галавач** (34), паэт Алесь Дудар (32), крытык **Хацкель Дунец** (40), празаікі **Міхась Зарэцкі** (35) і **Васіль Каваль** (30), публіцыст **Язэп Каранеўскі** (56), паэт **Майсей Кульбак** (41), крытык **Саламон Левін** (25), паэт **Юрка Лявонны** (29), паэты **Валеры Маракоў** (28) і **Зяма Півавараў (**27), празаік **Васіль Сташэўскі** (42), паэт **Ізі Харык** (41), крытык **Пятро Хатулёў** (25), паэт і празаік **Міхась Чарот** (40), журналіст **Павел Шастакоў** (38), паэт **Арон Юдэльсон** (30).

У наступную ноч крывавы спіс дапоўнілі прозвішчы журналіста **Прохара Іспраўнікава** (35), празаіка **Янкі Нёманскага** (47), паэтаў **Тодара Кляшторнага** (34) і **Юлія Таўбіна** (26). Але **і праз 50 гадоў нашчадкі расстраляных не будуць ведаць сапраўднага лёсу сваіх сваякоў**, бо пасля смерці галоўнага забойцы ўсіх часоў і народаў атрымаюць даведкі аб “рэабілітацыі”: “Ваш бацька (маці і да т.п.) памёр ад інфаркту (інсульту, сухотаў і г.д.) у турэмнай бальніцы (лагеры, на фронце, па дарозе дамоў)”. І праз 50 гадоў многія з тых, хто не атрымаў “рэабілітацыяў” працягвалі жыць надзеяй на вяртанне бацькоў, чакалі... “Крымінальныя” справы рэпрэсаваных, але нерэабілітаваных пісьменнікаў і дагэтуль застаюцца сакрэтнымі нават для даследчыкаў...

[1] У прадмове да спісаў рэпрэсаваных беларускіх літаратараў аналізуюцца арышты, праведзеныя расійскімі царскімі і савецкімі, польскімі, літоўскімі і нямецкімі ўладамі ў XX стагоддзі. Звесткі аб арыштах, якія былі праведзены расійскімі ўладамі ў XIX стагоддзі, збіраліся і заносіліся ў спісы ўжо ў час вёрсткі кнігі.

Аднаму з самых маладых сярод расстраляных у тыя дні літаратараў Юлію Таўбіну было 26 гадоў. Як выявілася зусім нядаўна, паэту ўдалося адправіць нашчадкам ліст з "таго свету". Незадоўга да арышту Юлі Таўбін паслаў у Ленінградскае аддзяленне выдавецтва "Художественная литература" падборку перакладаў на рускую мову вершаў Альфрэда Хаўсмана, якія потым увайшлі ў зборнік "Антология новой английской поэзии" (выйшаў праз 20 дзён пасля расстрэлу паэта). Пераклад верша англійскага паэта "Законы бога и людей" прагучаў своеасаблівым пасланнем з таго свету:

*...Себе другой избрал я путь –*
*Они хотят меня вернуть.*
*Но я, хуля законы их,*
*Им не навязывал своих.*
*Мол, как угодно, господа, –*
*Раз вы туда, так я сюда.*
*Так нет же! Им стерпеть нельзя,*
*Что у него своя стезя.*
*Они грозят – иди назад,*
*Не то – тюрьма, петля и ад.*
*Как не робеть мне! Суд их скор.*
*Могу ль вступить в неравный спор?*
*Не я построил этот мир.*
*Я в нем блуждаю, чужд и сир.*
*Хоть глупые, но господа –*
*Они. Их сила, их права.*
*А нам на Марс не улететь*
*С тобой, душа моя... Так впредь*
*Смирись и следовать сумей*
*Законам Бога и людей...*

У тым "юбілейным" для бальшавікоў 1937-м годзе, калі іх "гвардзейцынкусаўцы" пачалі татальнае знішчэнне "нацдэмфашыстаў" (у перакладзе з "бальшавіцкай" – інтэлектуальнай беларускай эліты), толькі **за тры асеннія месяцы вылюдкі расстралялі больш за пяцьдзесят беларускіх пісьменнікаў**. **За дзесяцігоддзе з 1930 да 1939 года рэпрэсавана не менш, як 350 беларускіх літаратараў. Амаль палову з іх расстралялі.**

"Рэпрэсаваны"... Знайшлі ж бальшавікі слова. Не расстраляны, не загінуў на катарзе, ці выжыў у ссылцы, а "рэпрэсаваны" (з лацінскага repressor – падаўленне, карная мера).





Карная машына не кранула: Э.Агняцвет (Э.Каган), А.Астрэйку, В.Барысенку (В.Барысёнка), П.Броўку, Л.Бэндэ, З.Бядулю (С.Плаўніка), В.Вітку (Ц.Крысько), Ю.Віцьбіча (Г.Шчарбакова), В.Вольскага (В.Вольскага-Зэйдэля), П.Глебку, К.Губарэвіча, І.Гурскага, З.Жыткевіча, П.Кавалёва, М.Клімковіча, К.Крапіву (К.Атраховіча), А.Куляшова, Я.Купалу (І.Луцэвіча), А.Кучара, М.Ларчанку, Я.Ліманоўскага, М.Лынькова, Я.Маўра (І.Фёдарава), М.Модэля, Р.Мурашку, Я.Рамановіча, Я.Садоўскага, М.Цэлеша, Я.Шарахоўскага, А.Якімовіча і некалькіх дзесяткаў менш вядомых аўтараў.

У спісы ўключаны пачынаючыя пісьменнікі, якія па прычыне "ранняга" арышту не паспелі акунуцца ў актыўнае літаратурнае жыццё: **М.Гваздоў, С.Мурзо, С.Русаковіч, А.Сідарэнка** і інш. Уключаны таксама аўтары, што загінулі ў выніку тэрарыстычнага акта **(Ф.Акінчыц, Ф.Аляхновіч, У.Казлоўскі, В.Іваноўскі),** або вымушанага самагубства **(У.Ігнатоўскі).**

Уключана большая частка "дыяспары", якая турмы, канцлагеры і высылкі таксама спазнала "не па чутках": **Ант.Адамовіч, В.Адважны (Язэп Германовіч), Н.Арсеннева, У.Дудзіцкі (Гуцька), В.Жук-Грышкевіч, Х.Ільяшэвіч, М.Кавыль (Язэп Лешчанка), А.Калубовіч, Я.Кіпель, У.Клішэвіч, Р.Крушына (Казак), Л.Крывічанін (Савёнак), Ф.Кушаль, Я.Найдзюк, В.Рагуля, Я.Станкевіч, П.Сыч, М.Сяднёў, У.Сядура, С.Хмара** і іншыя**.**

Пры падрыхтоўцы спісаў вялікую дапамогу я атрымаў ад старэйшых нашых пісьменнікаў С.Грахоўскага, П.Пруднікава, вядомых даследчыкаў У.Адамушкі, А.Мальдзіса, У.Міхнюка, Л.Савік, Я.Саламевіча, В.Скалабана, Я.Янушкевіча, супрацоўнікаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Беларускай Энцыклапедыі, Нацыянальнага архіва Беларусі, Беларускага Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, Літаратурнага музея Я.Купалы, іншых дзяржаўных і грамадскіх арганізацый.

Збіраліся і ўдакладняліся біябібліяграфічныя і іншыя звесткі з жыцця і творчасці большасці рэпрэсаваных літаратараў, знойдзены фотаздымкі аўтараў, якія раней не былі змешчаны ў энцыклапедыях або даведніках (Г.Брэская, У.Прыбыткоўскі, У.Сядура, А.Траецкі, П.Хатулёў, М.Шалай) і праца вядзецца далей...

Адзначым, што ў спісы не ўключаны літаратары, біяграфічныя звесткі пра якіх не былі апрацаваны да моманту здачы матэрыялу ў друк: Г.Аляксандраў, Рыгор Бахта, Пётра Беларус (Яленскі), Ганна Брэская, Сяргей Бусел, П.Бяліна-Падгаецкі, Язэп Вазёрны (брат У.Дубоўкі), Міхась Ключановіч, Міхась Каршук, Аляксандр Крапачоў, Аляксандр Круталевіч, Тодар Курбацкі, М.Лебовіч, Антон Лёсік, Янка Марук, Аляксандр Някрашэвіч, Мікола Нікіцін, Уладзімір Прыбыт-

коўскі, Аляксей Сідарэнка, П.Харламповіч, Лявон Цвяткоў, Антон Цвячкоўскі, Мікалай Чарнушэвіч, Хведар Чарнышэвіч (усяго каля пяцідзесяці чалавек).

Пры распрацоўцы спісаў у камп'ютарнай праграме *Microsoft Excel* па датах нараджэння, смерці і арыштаў высветлілася наступнае:

З 540 – 570 літаратараў, якія выступалі ў беларускім друку ў 1920 – 1930-я гады дваццатага стагоддзя бальшавікі рэпрэсавалі не менш як 440 – 460 (80%), а калі ўлічваць аўтараў, якія былі прымушаны пакінуць Бацькаўшчыну і па сутнасці перасталі ўдзельнічаць у літаратурным жыцці, **рэпрэсіям падвергліся не менш за 500 літаратараў[2] (90%)**.

Адзначыўшы, што вядучай сілай інтэлігенцыі таго часу пераважна былі дзеячы літаратуры, – паэты, празаікі, драматургі, крытыкі, журналісты, перакладчыкі, публіцысты, рэдактары, выдаўцы, вучоныя гуманітарных напрамкаў, якія таксама актыўна выступалі ў перыядычным друку таго часу – філосафы, гісторыкі, мовазнаўцы, краязнаўцы, географы і іншыя, атрымліваем ВЫНІК: **у 30-я гады была знішчана духоўная моц, мозг нацыі, што мы і адчуваем апошнія шэсць дзесяцігоддзяў і галоўныя вынікі генацыду, магчыма, яшчэ наперадзе**.

Пры распрацоўцы спісаў таксама высветлілася наступнае:

Дванаццаць беларускіх літаратараў арыштоўваліся як царскімі, так і бальшавіцкімі ўладамі (гэта значыць, што бальшавікі пачыналі не на "голым месцы", а быццам прынялі эстафету ад царскага рэжыму): пісьменнік **Іван Батрак (Казлоўскі)** (1915; 193?), дзяржаўны дзеяч, публіцыст **Радзівон Бонч-Асмалоўскі** (1908(9?); 1930; 1938), пісьменнік, публіцыст і перакладчык **Дарафей Бохан** (1907; 1939), публіцыст **Аляксандр Бурбіс** (1906; 1917)**,** палітычны дзеяч і публіцыст **Хаім Гельфанд** (1896; 1921), эканаміст **Міхаіл Гольман** (1917; 1929; 1932; 1936)**,** гісторык **Яўсей Канчар** (1906; 1938), пісьменнік, мовазнавец, палітычны дзеяч, акадэмік АН Беларусі **Язэп Лёсік** (1905; 1911; 1922; 1930; 1938), эканаміст і публіцыст **Стасіс Матулайціс** (1898; 1937), дзяржаўны дзеяч і публіцыст **Васіль Рагуля** (1906; 1928; 1939), літаратуразнавец, краязнавец і гісторык **Уладзімір Стукаліч** (1889; 1918), выдавец, публіцыст, грамадскі дзеяч, рэдактар "Нашай ніве" **Аляксандр Уласаў** (1909; 1939; 1940).

ПЕРШЫМІ бальшавікі арыштавалі (18 снежня 1917 года)

[2] У сакавіку 1953 года на амерыканскай навуковай канферэнцыі Мюнхенскага інстытута па вывучэнню гісторыі і культуры СССР У.Сядура выступіў з вялікім дакладам на тэму "Беларуская культура і таталітарызм". У дакладзе прагучала інфармацыя «аб зьнішчэнні (крамлёўскімі тыранамі і органамі ГПУ - НКВД. – **Л.М.**) бадай усіх прадстаўнікоў нацыянальна-адраджэнчай плыні ў беларускай літаратуры**. 500 без аднаго знішчаных маладнякоўцаў, бальшыня ліквідаваных палымянцаў і ўзвышэнцаў**".





**Аляксандра Бурбіса, Аляксандра Вазілу, Міхаіла Гольмана, Ігната Дварчаніна, Івана Краскоўскага, Язэпа Мамоньку**. Праз месяц былі арыштаваны публіцыст **Кастусь Езавітаў** і палітычны дзеяч **Васіль Захарка**.

ПЕРШЫМ, каго новыя ўлады расстралялі, быў літаратуразнавец, гісторык, краязнавец **Уладзімір Стукаліч** (18 кастрычніка 1918 года ў Віцебску).

ПЕРШЫ МАСАВЫ расстрэл беларускіх літаратараў адбыўся **17 траўня 1934 г.** У ноч з 17 на 18 траўня энкавэдысты расстралялі педагога, публіцыста і палітычнага дзеяча **Міхаіла Кахановіча**, загадчыка сектара газеты "Звязда" **Аляксандра Нікалаева-Астравецкага**, аспіранта БДУ, паэта **Алеся Салагуба**, навуковага супрацоўніка Камісіі Заходняй Беларусі АН БССР, публіцыста **Лявона Бабровіча**. Усяго 17 траўня 1934 г. расстраляна 15 чалавек.

АПОШНІМІ літаратарамі, якіх знішчылі ў "амерыканцы" былі адзін з першых, каго бальшавікі арыштавалі (во рок лёсу!) – **Кастусь Езавітаў** і публіцыст **Іван Філістовіч**.

ПЕРШЫМ у ссылцы загінуў паэт **Уладзімір Жылка** (01.03.1933). Апошнім – празаік **Барыс Мікуліч** (17.06.1954).

**ПЕРШАЯ хваля арыштаў** беларускіх літаратараў (пра арышты праведзеныя польскімі ўладамі ў Заходняй Беларусі ў 1927 – 1929 гадах, калі былі арыштаваны Ф.Акінчыц, А.Альшэўскі, Я.Бабровіч, А.Галавінскі, Х.Ільяшэвіч, Ф.Каравацкі, С.Клінцэвіч, М.Краўцоў, А.Луцкевіч, Я.Мамонька, М.Машара, П.Мятла, С.Новік-Пяюн, У.Паўлюкоўскі, П.Пестрак, В.Рагуля, С.Рак-Міхайлоўскі, Б.Тарашкевіч, С.Хмара і іншыя, трэба гаварыць асобна) **пачалася ў канцы чэрвеня 1930 г. На працягу двух месяцаў былі арыштаваны больш за пяцьдзесят лепшых сыноў Беларусі**: А.Адамовіч, М.Азбукін, А.Бабарэка, П.Бузук, М.Грамыка, У.Дубоўка, А.Дудар (у ссылцы), Я.Дыла, Ф.Ждановіч, У.Жылка, В.Ластоўскі, Я.Лёсік, С.Някрашэвіч, У.Пічэта, А.Сак, Я.Пушча, В.Шашалевіч, Б.Эпімах-Шыпіла, Аляксандр і Іван Цвікевічы, браты Максім і Гаўрыла Гарэцкія, Чэслаў і Леапольд Родзевічы.

**ДРУГАЯ моцная хваля арыштаў пачалася 23 лютага 1933 года.** Толькі за адну ноч энкавэдысты арыштавалі дзесяць беларускіх пісьменнікаў: С.Астрэйку, З.Віталіна (Сергіевіча), Ф.Гінтаўта, У.Дудзіцкага, М.Кавыля, Л.Калюгу, С.Ліхадзіеўскага, М.Лужаніна, С.Русаковіча, Ю.Таўбіна (?).

**ТРЭЦЯЯ і самая "доўгая" хваля арыштаў пачалася (па гэтак званай "разнарядке") увосень 1936 года і працягвалася да пачатку-сярэдзіны 1938 г. За паўтара года рэпрэсавана больш за дзвесце чалавек (шмат хто паўторна):** А.Адамовіч, М.Азбукін, М.Аляхновіч, З.Астапенка, А.Бабарэка, М.Багун, С.Баранавых, П.Бузук, Я.Бяганская, А.Вольны,

І.Воўк-Левановіч, П.Галавач, У.Галубок, Ц.Гартны, браты Максім і Гаўрыла Гарэцкія, С.Грахоўскі, А.Дудар, У.Дубоўка, А.Дзяркач, Ф.Ждановіч, І.Замоцін, М.Зарэцкі, А.Звонак, В.Каваль, У.Клішэвіч, Т.Кляшторны, Ф.Куляшоў, В.Ластоўскі, А.Сак, Т.Лебяда, Я.Лёсік, Ю.Лявонны, В.Маракоў, Б.Мікуліч, Я.Нёманскі, А.Пальчэўскі, М.Піятуховіч, П.Пруднікаў, С.Рак-Міхайлоўскі, Я.Скрыган, Л.Случанін, А.Смоліч, В.Сташэўскі, М.Сяднёў, А.Сянкевіч, Б.Тарашкевіч, Ю.Таўбін, У.Хадыка, І.Харык, В.Хомчанка, М.Чарот, К.Чорны, С.Шушкевіч.

**ЧАЦВЁРТАЯ хваля арыштаў пачалася ўвосень 1939 года, пасля ўз'яднання з Заходняй Беларуссю.** Арыштавалі Ф.Абрантовіча, Я.Бабровіча, Я.Найдзюка, Ф.Кушаля, М.Краўцова, В.Багдановіча, А.Луцкевіча, А.Уласава, І.Баранкевіча, Я.Пазняка, У.Самойлу, В.Жук-Грышкевіча, С.Новіка-Пеюна, В.Рагулю, С.Сахарава, Я.Станкевіча, П.Сыча, А.Уласава, С.Хмару, Я.Чабора. Лёс злітаваўся толькі над М.Танкам, В.Таўлаем і яшчэ некалькімі "заходнікамі".

**ПЯТАЯ хваля арыштаў пачалася ў канцы 1944 г. і працягвалася амаль да самай смерці І.Сталіна.** Арыштоўвалі выцягнутых з Захаду падманам або сілай "уцекачоў" (М.Байкова, К.Езавітава, Т.Лебяду, Л.Случаніна) і паўторна "недабітых" у трыццатыя нацдэмаў: А.Александровіча, М.Ганчарыка, С.Грахоўскага, У.Дубоўку, Б.Мікуліча, А.Пальчэўскага, С.Сахарава, Я.Скрыгана, М.Улашчыка, М.Хведаровіча, С.Шушкевіча і інш.

Самымі маладымі сярод больш чым 500 арыштаваных беларускіх літаратараў з'яўляюцца: паэт Міхась Кавыль (Язэп Лешчанка), празаік Васіль Хомчанка, літаратар Аўген Калубовіч (усе рэпрэсаваны ў васемнаццаць гадоў). У семдзесят адзін год арыштавалі мовазнаўца Браніслава Эпімах-Шыпілу.

Самымі маладымі сярод расстраляных, верагодней за ўсё, былі аўтар паэмы "Бенгалія" (пакуль не знойдзена), выпускнік славутага мінскага Белпедтэхнікума Сяргей Астрэйка (расстраляны ў 24 гады), паэт Уладзімір Кавальскі (пісаў на польскай мове) і выпускнікі яшчэ аднаго "гнязда нацдэмаў", мінскага вышэйшага Белпедінстытута, крытыкі Саламон Левін і Пятро Хатулёў (расстраляны ў 25 гадоў). У 69 гадоў расстралялі (відаць у Маскве) пісьменніка Гілеля Калмансона (магчыма разам з сынам, гісторыкам і паэтам Лабары Лялевічам-Калмансонам).

Па колькасці арыштаў (залічаны арышты, якія былі праведзены расійскімі царскімі і савецкімі, польскімі, літоўскімі і нямецкімі ўладамі) "чэмпіёнамі" з'яўляюцца: **Анатоль Бонч-Асмалоўскі** (шэсць), **Міхаіл Гольман** (шэсць), **Язэп Мамонька** (шэсць), **Барыс Брэслаў** (пяць), **Андрэй Капуцкі** (пяць), **Язэп Лёсік** (пяць), **Варвара Бонч-Асмалоўская** (чатыры), **Аляксандр**





**Вазіла** (чатыры), **Максім Гарэцкі** (чатыры), **Восіп Гласко** (чатыры), **Клаўдзій Душэўскі** (чатыры), **Паўліна Мядзёлка** (чатыры), **Сяргей Новік-Пяюн** (чатыры; арыштоўваўся польскімі, нямецкімі і савецкімі ўладамі), **Мікола Улашчык** (чатыры).

Тройчы арыштоўваліся: Ф.Аляхновіч, М.Анішчык, А.Бабарэка, Я.Бабровіч, І.Баранкевіч, У.Беняшэвіч, Р.Бонч-Асмалоўскі, М.Бурсевіч, П.Бузук, А.Бурбіс, У.Галубок, А.Гародня, Г.Гарэцкі, У.Дубоўка, А.Дудар, Я.Дыла, П.Жаўрыд, К.Езавітаў, П.Ільючонак, У.Каліноўскі, П.Каравайчык, І.Краскоўскі, Ф.Купцэвіч, В.Ластоўскі, Ю.Лістапад, А.Луцкевіч, А.Лябецкая, П.Мятла, А.Неманцэвіч, К.Петрусевіч, В.Рагуля, С.Рак-Міхайлоўскі, Р.Сабаленка, Б.Тарашкевіч, В.Таўлай, А.Цвікевіч.

Вельмі нечаканыя вынікі высветліваюцца, калі супаставіць колькасць рэпрэсаваных літаратараў Беларусі з колькасцю рэпрэсаваных літаратараў іншых рэспублік былога СССР. Рускі журналіст і даследчык Эдуард Белтаў (цяпер жыве ў Ізраілі) ужо больш за чвэрць стагоддзя збірае матэрыялы пра незаконна рэпрэсаваных у 30 – 50-я гады дзеячаў культуры, вучоных, ваенных і асобна (паводле прафесійных прыхільнасцяў) пісьменнікаў. Па звестках Э.Белтава на Украіне было рэпрэсавана каля пяцісот літаратараў (загінула больш за сто пяцьдзесят). У Расіі каля 600. У гутарцы з журналістам штотыднёвіка "Книжное обозрение" ("Книжное обозрение". 1988. № 25. 17 июля. С. 7.; больш пазнейшых публікацый расійскага даследчыка няма нават у "персаналіях" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі) Э.Белтаў расказаў, што "вопреки моим предположениям рэпрессированных русских литераторов оказалось меньшинство. Из тысячи погибших (маецца на ўвазе увесь СССР; усяго паводле дадзеных Э.Белтава ў час культу асобы было рэпрэсавана каля дзвюх тысяч літаратараў. – **Л.М.**) примерно семьсот –- писатели союзных и автономных республик. По национальным литературам был нанесен такой сокрушительный удар, что некоторые из них от него еще не оправились и вряд ли оправятся в ближайшее время".

**ВЫНІК: з 2000 рэпрэсаваных у СССР літаратараў, каля 500 (чвэрць) прыходзіцца на Беларусь, колькасць насельніцтва якой складала ў час рэпрэсіяў у СССР менш за 5 працэнтаў.**

У 1958 годзе Інстытутам вывучэння СССР (ЗША) была выдадзена манаграфія Уладзіміра Сядуры "Доля беларускай культуры пад Саветамі" (у 1959 г. выйшла на нямецкай мове). Аўтар даследавання паслякастрычніцкі час гісторыі Беларусі разбівае на пяць перыядаў, "якія вызначаліся галоўнымі зменамі ў галіне нацыянальнай палітыкі савецкае ўлады":

**1. Перыяд адноснага рэнесансу /1920 — 1929 гг./.**

**2. Трагічны перыяд змагання партыі з беларускім нацыянал-дэмакратызмам і нацыянальнымі ўхіламі /1930 — 1940 гг./.**

**3. Перыяд вымушаных уступак нацыянальнай культуры ў часе вайны /1941 — 1945 гг./.**

**4. Перыяд жданаўскай рэакцыі і сталінскай кананізацыі /1946 — 1952 гг./.**

**5. Перыяд замены сталінскай кананізацыі г.зв. “калектыўным кіраўніцтвам” партыі /ад 1953 г. і да нашых дзён/”.**

Здаецца, толькі з характарыстыкай другога перыяду гісторыі Беларусі можна паспрачацца з Ул.Сядурам. Відаць, больш правільна было б гаварыць не пра “змаганне партыі з беларускім нацыянал-дэмакратызмам”, а пра ЗНІШЧЭННЕ партыяй інтэлектуальнай беларускай эліты, мозга нацыі, яе інтэлектуальнага генафонду. На гэты перыяд прыпадае чатыры з пяці хваляў арыштаў.

Сёння мы ўжо можам прадоўжыць перыядызацыю У.Сядуры:

**6. Перыяд “хрушчоўскай адлігі” /1957 — 1965 гг./.** Дакрануўся і Беларусі. Найбольш характэрным паказчыкам гэтага перыяду з’яўляецца выхад шэрагу твораў, кніг рэпрэсаваных пісьменнікаў, паяўленне артыкулаў пра жыццёвы і творчы шлях пакутнікаў, успамінаў тых, хто застаўся жывы.

**7. Перыяд г.зв. застою, або перыяд “ціхай”, але сталай і нязменнай палітыкі антыбеларусізацыі /1966 — 1986 гг./.** За дваццаць гадоў гэтага перыяду, у выніку поўнай русіфікацыі ўсіх навучальных устаноў, частка насельніцтва, якая гаварыла па-беларуску значна зменшылася ў працэнтных адносінах.

**8. Перыяд г.зв. другога адноснага рэнесансу, або перыяд дэмакратызацыі (галоснасці) /1987 — 1994 гг./.** Упершыню пачалі выходзіць творы пісьменнікаў-эмігрантаў. Суадносіны беларускіх і рускіх школ паступова пачалі паўялічвацца (таксама ўпершыню за апошнія 60 гадоў).

**9. Перыяд адраджэння таталітарызму і як вынік, татальнае знішчэнне дасягненняў перыяду дэмакратызацыі /ад 1995 г. і да нашых дзён/.**

Першага жніўня 1937 г. на вялікім вогнішчы ў “амерыканцы”, гарэла некалькі дзесяткаў тысяч (!) рукапісаў. Гарэлі творы якія не “праскочылі” цэнзуру, або пісаліся “у стол”, для нас, нашчадкаў. Гарэлі рукапісы М.Багуна, С.Баранавых, А.Вольнага, П.Галавача, У.Галубка, Ц.Гартнага, М.Гваздова, С.Дарожнага, А.Дзеркача, А.Дудара, М.Зарэцкага, С.Знаёмага, В.Каваля, Т.Кляшторнага, Дз.Курдзіна, Ю.Лявоннага, В.Маракова, Я.Нёманскага, З.Півваравара, С.Ракіты, А.Розны, В.Сташэўскага, Б.Тарашкевіча, У.Хадыкі,





І.Харыка, М.Чарота, В.Шашалевіча і многіх іншых. Гарэла амаль уся спадчына пісьменнікаў “першага прызыву”. Няма чалавека –- няма толькі адной праблемы. Няма рукапісаў – няма паэтаў, няма гісторыі, няма народа! Вось гэту гісторыю разам з народам ЯНЫ увесь час і выкарчоўваюць. Калі мячом, калі агнём.

А выслоўю “рукапісы не гараць” я цяпер не веру...

**P.S.** Знак пытальніка ў спісах азначае, што інфармацыя, пасля (або замест) якой ён стаіць дакладна не пацверджана, або на час здачы матэрыялу ў друк складальніку была невядома. Прозвішчы расстраляных або загінуўшых у лагерах і ссылках выдзелены.

Аўтар будзе вельмі ўдзячны сваякам рэпрэсаваных, даследчыкам, чытачам за дапамогу па ўдакладненні прыведзеных дадзеных.

e-mail: polemor@mail.ru

| *Прозвішча і імя* | *Від дзейнасці* | *Дата нарадж.* | *Дата(ы) арышту(аў)* | *Дата смерці* | *Месца смерці* |
|---|---|---|---|---|---|
| Абрамовіч Мар'ян | рэв. - народнік, публіцыст | 25.03.1871. | 09.03.1890; 1892 (?). | 07.01.1925. | Варшава |
| **Абрантовіч Фабіян** | **рэліг. дзеяч, публіцыст** | **14.09.1884** | **??.09.1939** | **02.01.1946.** | **Масква, НКУС** |
| Абуховіч Альгерд | пісьменнік | 06.08.1840. | 1863. | 22.08.1898. | Слуцк |
| **Авейдэ Аскар** | **гісторык, журналіст** | **1837.** | **22.08.1863** | **20.07.1897** | **Вяцкая губерня** |
| **Агол Іосіф** | **філосаф, публіцыст** | **02.12.1891** | **1936** | **10.03.1937.** | **Мінск, НКУС** |
| **Агрызка Іасафат** | **журналіст, выдавец** | **1826** | **14.11.1864** | **30.03.1890** | **Іркуцк** |
| Агурскі Самуіл | гісторык | 29.04.1884. | 04.03.1938. | 19.08.1947. | ? |
| **Адамаў У.** | **батанік** | **12.06.1875.** | **?** | **1937.** | **?** |
| Адамовіч Антон | літаратуразнавец | 26.06.1909. | 25.07.1930; 25(?).06.1937 | 12.06.1998. | ЗША |
| **Адамовіч Язэп** | **дзярж. дзеяч** | **07.01.1897** | | **22.04.1937.** | **самагубства; ?** |
| Адважны Вінцук (Германовіч Я.) | паэт | 04.03.1890 | 1948 | 26.12.1978. | Лондан |
| Адзярыха Міхась | краязнавец | каля 1900 | 1925; 1930 | ? | ? |
| Адынец Антон | паэт, журналіст, мемуарыст | 25.01.1804. | ??.11.1823. | 15.01.1885. | Варшава |
| **Азбукін Мікалай** | **краязнавец, географ** | **1894** | **21.07.1930; 1937 (?)** | **24.11.1943 (?)** | **Налінск (?)** |
| **Акінчыц Фабіян** | **публіцыст, рэдактар** | **20.01.1886** | **??.01.1927** | **07.03.1943.** | **Мінск** |
| Акінчыц Аляксандр | публіцыст | 1839 | 1863 | 1880-я г.г. | Парыж |
| **Аксельрод Зэлік** | **паэт** | **30.12.1904.** | **30.05.1937.** | **26.06.1941.** | **Мінск, НКУС** |
| Александровіч Андрэй | паэт | 22.01.1906. | 02.07.1938; 26.02.1949 | 06.01.1963. | Падмаскоўе |
| **Альшэўскі Анатоль** | **публіцыст** | **04.07.1904.** | **1927; 1937** | **1937** | **Мінск, НКУС** |
| Аляхновіч Мікола | крытык | 21.04.1903. | 26.11.1936. | 09.04.1959. | Ленінград |
| **Аляхновіч Францішак** | **драматург** | **09.03.1883** | **1913; 1914; 1927** | **03.03.1944.** | **Вільнюс** |
| **Анацэвіч Ігнат** | **гісторык** | **1780** | **1828** | **18.02.1845** | **Пецярбург** |
| Ангарэціс (Алекс Зігмас) | публіцыст | 25.06.1882 | 1909 | 22.05.1940. | ? |
| Анісаў Сяргей | дз.рэв.руху, журналіст | 19.10.1906. | 1935, 10.02.1950. | 07.03.1987. | Мінск |
| Анішчык Аляксей (Чэмер Андрэй) | пісьменнік | 19.07.1912. | 1944; 1950 (?). | | жыве ў Вільнюсе |
| Анішчык Міхаіл | дз.рэв.руху, рэдактар | 16.10.1905. | арышт. тройчы польск.улад. | 08.02.1973. | ? |
| Анцыпа Ільдэфанс | удз.рэв.руху, публіцыст | 1815 (?) | 1863. | 06.06.1863. | Магілёў |
| **Аранштам Лазар** | **дзеяч рэв.руху** | **21.06.1896.** | **??.04.1926; 1937 (?)** | **1939 (?)** | **?** |
| Арсеннева Наталля | паэтка | 20.09.1903. | ??.04.1940 | 25.07.1997. | ЗША |
| **Аршанскі Бэр** | **публіцыст, журналіст** | **30.11.1883** | **1937** | **1937** | **Мінск, НКУС** |
| Аскерка Аляксандр | грам.дзеяч, публіцыст | 1830. | 31.05.1863 | 11.01.1911. | Брасл. р-н, Беларусь |
| **Астапенка Змітрок** | **паэт** | **23.11.1910.** | **16.03.1933; 05.12.1936** | **1945 (?)** | **Славаччына (?)** |
| **Астрэйка Сяргей** | **паэт** | **25.07.1913.** | **23.02.1933; ??.09.1937** | **14.09.1937.** | **Чэляб. вобл., НКУС** |
| Астрамовіч (Зязюля) Аляксандр | паэт, святар | 26.11.1878 | 1919 ці 1920 | 17.01.1921. | ? |
| Астроўскі Радаслаў | грам.дзеяч, публіцыст | 06.11.1887 | 1926. | 17.10.1976. | ЗША |
| **Ашаровіч Ілья** | **рэдактар** | **1879** | **29.10.1937.** | **29.11.1938.** | **Мінск, НКУС** |

| *Прозвішча і імя* | *Від дзейнасці* | *Дата нарадж.* | *Дата(ы) арышту(аў)* | *Дата смерці* | *Месца смерці* |
|---|---|---|---|---|---|
| **Бабарэка Адам** | **літаратуразнавец** | **14.10.1899** | **1920; 24.07.1930; 25.07.1937.** | **10.10.1938.** | **Паўночлаг** |
| Баброўскі Міхал | славіст | 1784 ці 1785 | 1824 | 1848. | Шарашова |
| **Бабровіч Лявон** | **публіцыст** | **1904** | **26.09.1933.** | **17.05.1934.** | **Мінск, НКУС** |
| **Бабровіч Ян** | **дзеяч рэв. руху, публіц.** | **15.06.1902.** | **23.??.1928; 17.10.1933; ??.08.1939** | **08.01.1943 (?)** | **Паўночлаг** |
| **Багародскі Мікалай** | **гісторык** | **14.06.1877.** | **01.11.1937.** | **27.11.1937.** | **Віцебск** |
| **Баргановіч Ангел** | **удз.рэв.руху, публіцыст** | **14.10.1860.** | **1883.** | **06.04.1907.** | **Санкт-Пецярбург** |
| **Багдановіч Вячаслаў Вас.** | **царкоўны дзеяч, пісьмен.** | **1878** | **1932; 30.09.1939** | **1941 (?)** | **Вільнюс (?), НКУС** |
| **Багдановіч Генадзь Вас.** | **асвет. дзеяч, рэдактар** | **31.08.1885** | **15.07.1930; 25.07.1937** | **15.01.1938 (?)** | **ГУЛАГ (?)** |
| Багдановіч Янка | пісьменнік | 17.11.1906. | ??.08.1952 | 13.07.1990. | Вільнюс |
| Багданчук Аляксандр | грам. дзеяч, рэдактар | 15.06.1905. | 192?;1937 | 26.11.1976. | Мінск (?) |
| Багрым Паўлюк | паэт | 1812 | 1828 | каля 1891 | Крашын |
| **Багун Міхась (Блошкін М.)** | **паэт** | **09.11.1908.** | **04.11.1936.** | **17.02.1938.** | **этап** |
| Багушэвіч Марыя | дз.рэв.руху, мемуарыстка | 04.01.1865. | 30.09.1885. | 1887. | Краснаярск |
| **Багушэўскі Стафан** | **дз.рэв.руху, рэдактар** | **26.12.1876** | **01.08.1936.** | **16.04.1938.** | **?** |
| **Бадунова Палута** | **дз.бел.нац.руху** | **1885.** | **1921, 03.09.1937.** | **29.11.1938.** | **Мінск, НКУС** |
| **Байкоў Мікола** | **літаратуразнавец** | **22.02.1889** | **18.07.1930; 1945** | **пасля 1945** | **Мінск, НКУС** |
| Балінскі Міхал | гісторык, публіцыст | 14.08.1794 | 1831. | 22.12.1864. | ? |
| **Баліцкі Антон** | **дз. дзеяч** | **17.09.1891.** | **03.09.1930.** | **31.10.1937.** | **?** |
| Барадзін (Грузенберг) Міхаіл | рэдактар | 09.07.1884. | 1951. | 29.05.1951. | ? |
| **Баран (Баранаў) Сяргей** | **педагог** | **1892.** | **1923; 25.09.1933.** | **>25.04.1935.** | **Дальлаг** |
| **Баранавых Сымон (Баранаў С.)** | **пісьменнік** | **01.09.1900.** | **04.11.1936.** | **10.11.1942 (?)** | **ГУЛАГ** |
| **Баранкевіч Іван** | **пісьменнік** | **1888** | **1924; 1931; 1939** | **27.06.1942.** | **Мурманск. вобл.** |
| **Бараноўская Ганна** | **мовазнавец** | **17.04.1907.** | **27.08.1937.** | **10.11.1937.** | **Орша, НКУС** |
| Баркоўскі Сцяпан | крытык | 10.04.1905. | 14.11.1936. | 11.06.1966. | Мінск |
| **Батрак (Казлоўскі) Іван** | **пісьменнік** | **29.02.1892.** | **1915; 193?** | **1938.** | **?** |
| **Белакоз Адольф** | **выдавец** | **каля 1826** | **1864** | **1895 або 1865** | **Сібір** |
| Белы Лявон | публіцыст | 01.04.1927. | 1957. | | жыве ў ? |
| **Беняшэвіч Уладзімір** | **гісторык, публіцыст** | **21.08.1874.** | **14.06.1929; 08.08.1931; 27.11.1937.** | **27.01.1938.** | **?** |
| Бергман Аляксандра | гісторык | 01.05.1906. | 1935. | | Жыве ў Варшаве. |
| Беркман Юзаф | мастак, публіцыст | 04.08.1838. | ??.10.1861; 1863 | 19.07.1919. | Варшава |
| **Бжастоўскі Ігнат** | **кір. паўст. 1863-1864 гг.** | **1823.** | **1864.** | **1875.** | **Енісейская губерня** |
| Бібіла Юлія | бібліёграф | 10.01.1897 | 1933 (?) | 09.12.1974. | Мінск |
| Бірала (Бульбянік) Захар | паэт | 15.02.1906. | 14.11.1936. | 14.09.1993. | Мінская вобласць |

| *Прозвішча і імя* | *Від дзейнасці* | *Дата нарадж.* | *Дата(ы) арышту(аў)* | *Дата смерці* | *Месца смерці* |
|---|---|---|---|---|---|
| Бітэль Пятро | паэт | 19.06.1912. | 1950 | 18.10.1991. | Валожынскі раён |
| **Бобіч Ільдэфанс (Пётра Прасты)** | **святар, пісьменнік** | **10.01.1890.** | **арышт. немцамі** | **28.04.1944.** | **Іўе, Беларусь** |
| Бонч-Асмалоўская Варвара | публіцыстка | 1855. | 1874; 1875; ??.03.1882; ??.04.1908 | 1929. | Масква |
| Бонч-Асмалоўскі Анатоль | публіцыст | 10.07.1857. | ??.11.1879; ??.04.1882; ??.04.1886; 1901; ??.04.1908; 1912 | 23.09.1930. | Масква |
| **Бонч-Асмалоўскі Глеб** | **археолаг** | **03.11.1890** | **1934.** | **01.11.1943.** | **Казань** |
| Бонч-Асмалоўскі Іван | дз.рэв.руху | 20.05.1881 | 1907. | 16.09.1969. | ? |
| **Бонч-Асмалоўскі Радзівон** | **дзяржаўны дзеяч** | **1884.** | **1908 ці 1909; 05.07.1930; ??.06.1938** | **1938 (?)** | **Паўд.-Каз. воб., НКУС** |
| Борзабагаты Уладзіслаў | рэв-р, мемуарыст | 1831. | 1874. | 1886. | Пінскі павет |
| Бохан Дарафей | пісьменнік | 04.02.1878 | 1907; 1939 | 1942 (?) | Тэгеран |
| **Браништэйн Міхал** | **гісторык** | **02.10.1874.** | **?** | **29.03.1938.** | **?** |
| **Браништэйн Якаў** | **крытык** | **10.11.1897** | **06.06.1937.** | **29.10.1937.** | **Мінск, НКУС** |
| **Брун Юльян** | **публіцыст** | **21.04.1886** | **1924.** | **28.04.1942.** | **?** |
| **Брэслаў Барыс** | **публіцыст, гісторык** | **10.10.1882.** | **1901 (усяго пяць разоў)** | **20.04.1943.** | **?** |
| Брэшка-Брашкоўская Кацярына | публіцыстка | 03.02.1844. | 1874; 1907 | 12.09.1934. | Чэхаславакія |
| **Будзінскі Станіслаў** | **дзеяч нац-вызв.руху,журн.** | **09.09.1894** | **??.06.1937** | **22.08.1937.** | **Масква (?), НКУС** |
| **Будкевіч Барбара** | **гісторык** | **02.12.1886** | **1906; 1909** | **21.08.1937.** | **?** |
| **Бузук Пётр** | **мовазнавец** | **14.07.1891** | **06.08.1930; 09.02.1934; 15.07.1937.** | **07.02.1938.** | **Волагда** |
| Булгак Тамаш | публіцыст | 1801. | 1839; 1863 | 16.02.1895. | ? |
| Бурбіс Аляксандр | публіцыст | 20.10.1885 | 24.08.1906;18.12.1917;1918 | 20.03.1922. | Мінск |
| Бурдзейка Андрэй | гісторык | 20.06.1899. | 10.04.1931. | 1941. | ? |
| **Бурсевіч Максім** | **педагог, публіцыст** | **09.08.1890** | **192?; ??.02.1927; 21.08.1933.** | **03.11.1937.** | **Архангельск. вобл.** |
| Быліна (Семашкевіч) Янка | паэт, святар | 1883 | 1930-я г.г. | 1956 | Польшча |
| Бяганская Ядвіга | пісьменніца | 29.02.1908. | 06.11.1937. | 03.04.1992. | Мінск |
| Бялькевіч Янка | мовазнавец | 06.03.1883 | 17.02.1930. | 18.10.1960. | Украіна |
| Бярозкін Рыгор | крытык | 03.07.1918. | ??.04.1941; 09.08.1949 | 01.12.1981. | Мінск |
| **Вадкоўскі Фёдар** | **паэт** | **1800** | **21.12.1825** | **20.01.1844** | **Іркуцкая губерня** |
| **Вазіла Аляксандр** | **паэт** | **09.09.1888** | **18.12.1917; 1924; 1932; 1937** | **04.12.1937.** | **Уладзімір** |
| **Вайніловіч Восіп** | **публіцыст** | **1860** | **08.03.1884** | **24.05.1890** | **Віцебск** |

| *Прозвішча і імя* | *Від дзейнасці* | *Дата нарадж.* | *Дата(ы) арышту(аў)* | *Дата смерці* | *Месца смерці* |
|---|---|---|---|---|---|
| **Вайнштэйн Арон** | **удз.рэв.руху, дз.дзеяч** | **23.11.1877** | **арышт. царскімі ўладамі** | **1938.** | **?** |
| Вайшнарас Фелікс | журналіст | 18.05.1897 | 1921; 23.08.1937 | 21.08.1972. | Вільнюс |
| **Валасевіч Янка** | **паэт** | **1912 (?)** | **1936 (?)** | **1937.** | **Мінск, НКУС** |
| Валіцкі Аляксандр | публіцыст | 08.02.1826 | 1863. | 13.06.1893 | Варшава |
| **Валошын Павел** | **дз.рэв.руху, публіцыст** | **10.07.1891** | **??.02.1927; 01.09.1933** | **03.11.1937.** | **Архангельск. вобл.** |
| **Валынец Флягонт** | **дз.рэв.руху, публіцыст** | **08.01.1879** | **30.08.1930; 31.08.1933** | **03.11.1937.** | **Архангельск. вобл.** |
| **Вансоўскі Браніслаў** | **публіцыст** | **1898** | **26.03.1937.** | **01.09.1938.** | **Мінск, НКУС** |
| **Васілевіч Язэп** | **педагог, публіцыст** | **16.09.1870** | **1930** | **1934 (?)** | **Башкір. АССР (?)** |
| Васілеўскі Даніла | краязнавец | 17.12.1889 | 09.12.1936. | 08.12.1963. | Феадосія |
| **Васюк Адам** | **літаратар** | **каля 1825** | **1849** | **?** | **Арэнбург (?)** |
| **Верамей-Пабядзінскі Мікалай** | **дз.рэв.руху, публіцыст** | **1898.** | **16.08.1933.** | **22.10.1937.** | **Хабараўскі край** |
| **Вернікоўскі Ян** | **паэт** | **1800** | **23.10.1823** | **1877** | **Казань** |
| Віталін (Сергіевіч) Змітро | пісьменнік | 08.08.1912. | 23.02.1933. | | Жыве ў Адэсе. |
| **Віткоўскі Іван** | **гісторык** | **02.05.1888** | **26.07.1934; 22.02.1937** | **27.12.1937.** | **Мінск, НКУС** |
| Вішнеўская Наталля | паэтка | 03.05.1907. | 1936 | 03.05.1989. | Ленінград |
| **Вольны (Ажгірэй) Анатоль** | **паэт** | **03.12.1902.** | **04.11.1936.** | **29.10.1937.** | **Мінск, НКУС** |
| **Воўк-Левановіч Іосіф** | **мовазнавец** | **06.11.1891** | **17.09.1937.** | **19.08.1943 (?)** | **Поўнач (?)** |
| Вуль Ялегі (Карафа-Корбут Э.) | паэт | 21.04.1835 | 1863. | 1880-я гг. | Варшава |
| **Выдра Рувім** | **філосаф, публіцыст** | **1894** | **06.03.1938.** | **28.06.1938.** | **Мінск, НКУС** |
| Высоцкі Пётр | публіцыст | 10.09.1797 | 1831. | 06.01.1875 | Польшча |
| Вярыга-Дарэўскі Арцём | пісьменнік | 04.11.1816 | 1863. | 1884 | Сібір |
| | | | | | |
| Гаварушка Яфім | пісьменнік | 15.10.1911. | 09.12.1936. | 03.06.1992. | Смалявічы |
| **Гадлеўскі Вінцук** | **рэліг. дзеяч, публіцыст** | **16.11(12).1888** | **24.12.1942.** | **1942 (1943?)** | **Мінск** |
| Гадыцкі-Цвірка Канстанцін | педагог | 17.04.1880. | ? | 1931 (?) | ? |
| Гайка Сяргей | стыльрэдактар | 1912 | 25.02.1933. | пасля 1970 | Сібір (?) |
| **Галавач Платон** | **пісьменнік** | **18.04.1903.** | **10.08.1937.** | **29.10.1937.** | **Мінск, НКУС** |
| **Галавінскі Аляксандр** | **дзярж. дзеяч, рэдактар** | **??.10.1886** | **1927; 18.07.1930** | **1937 (?)** | **Ніжні Ноўгарад** |
| **Галадзед Мікалай** | **парт. і дз. дзеяч, публіцыст** | **21.05.1894** | **14.06.1937.** | **21.06.1937.** | **Мінск, НКУС, самаг.** |
| **Галубок Уладзіслаў** | **драматург** | **15.05.1882** | **1919; 1924; 21.06.1936** | **28.09.1937.** | **Мінск, НКУС** |
| Гальперын Яфім | рэв-р, публіцыст | каля 1855 | ??.05.1900 | пасля 1924 | ? |
| Галюн Сяргей | рэв-р, публіцыст | 1866. | 26.06.1894, 1896 | пасля 1902 | ? |
| Ганчарык Міхаіл | вучоны, пісьменнік | 24.11.1899 | 14.09.1933; 15.02.1949 | 11.04.1986. | Мінск |
| **Гараўскі Вільгельм** | **пісьменнік** | **19.04.1908.** | **??.01(?).1937** | **27.08.1937.** | **Мінск, НКУС** |
| Гарбачэўскі Іван | дзекабрыст, публіцыст | 04.10.1800 | 20.01.1826 | 21.01.1869 | Пятроўск-Забайкальскі |
| Гарбук Вісарыён | пісьменнік | 24.09.1913. | 26.04.1936. | 08.08.1986. | Пяцігорск |

| *Прозвішча і імя* | *Від дзейнасці* | *Дата нарадж.* | *Дата(ы) арышту(аў)* | *Дата смерці* | *Месца смерці* |
|---|---|---|---|---|---|
| **Гародня (Функ) Алесь** | **пісьменнік** | **08.01.1899** | **03.11.1930; 30.11.1935; 19.12.1942.** | **12.09.1944.** | **ГУЛАГ** |
| **Гартны Цішка (Жылуновіч Зм.)** | **пісьменнік** | **04.11.1887** | **15.11.1936.** | **11.04.1937.** | **Магілёў, звар'яцеў** |
| Гарун (Прушынскі) Алесь | паэт | 11.03.1887 | 04.03.1907. | 20.07.1920. | Кракаў |
| Гарэцкі Гаўрыла | геолаг, публіцыст | 10.04.1900. | 24.07.1930; 1937; 1938 | 20.11.1988. | Мінск |
| **Гарэцкі Максім** | **пісьменнік** | **18.02.1893** | **1922 (дв.); 18.07.1930; 04.11.1937.** | **10.02.1938.** | **Смален.вобл., НКУС** |
| Гаўрук Юрка | перакладчык | 06.05.1905. | 08.02.1935. | 18.02.1979. | Мінск |
| **Гаўрылік Язэп** | **мемуарыст , паліт. дзеяч** | **06.04.1893** | **1930; 01.09.1933.** | **08.12.1937.** | **Белбалтлаг (Салаўкі)** |
| **Гваздоў Мікола** | **паэт** | **01.06.1916.** | **13.03.1936.** | **1938 (?)** | **Комі АССР** |
| Гедройць Міхал | гісторык | 1929 | 1940 | | Жыве ў Англіі (?) |
| **Гельтман Стэфан** | **дзярж. дзеяч, рэдактар** | **04.10.1886** | **05.04.1937.** | **20.09.1937.** | **Мінск , НКУС** |
| Гельфанд Хаім | паліт. дзеяч, публіцыст | 1877 | 1896; 1921 | 1932 | ЗША |
| Геніюш Ларыса | паэтка | 09.08.1910. | 05.03.1948. | 07.04.1983. | Гродзенская вобл. |
| Гінтаўт Франц | біёлаг, пісьменнік | 09.03.1910. | 23.02.1933. | | Жыве ў Гродне |
| **Гінтаўт-Дзевалтоўскі Уладзіслаў** | **народнік, пісьменнік** | **1857.** | **??.12.1881; ??.06.1883** | **1925.** | **Зах.Сібір** |
| Гласко Восіп | журналіст | 1856 | ??.12.1878; 15.04.1879; 12.04.1881; 20.08.1894 | 14.07.1934. | ? |
| Гласко Іван | публіцыст | 08.02.1855 | 1877; 16.09.1878 | ліпень 1881 | ? |
| **Глякоўскі Станіслаў** | **святар, публіцыст** | **02.03.1896** | **15.12.1941.** | **1943** | **?** |
| **Гольман Міхаіл** | **эканаміст** | **29.11.1894.** | **??.01.1917; ??.07.1917; 18.12.1917; 27.04.1929; 07.02.1932;1936** | **27.12.1937.** | **?** |
| Гольц-Мілер Іван | паэт | 09.12.1842 | 1861. | 17.08.1871 | Арол |
| **Горскі Станіслаў** | **прыродазнавец, публіцыст** | **06.05.1802** | **1863.** | **03.05.1864.** | **Сібір, самагубства** |
| **Горын (Каляда) Павел** | **гісторык** | **15.01.1900.** | **??.08.1937** | **05.02.1939.** | **?** |
| Горын-Галкін Уладзімір | філосаф | 22.01.1861 | 1887. | 22.07.1925. | Масква |
| Гофмейстар Апалін | дз.рэв.руху | 1825. | 1846; 1864 | 01.07.1890 | Галіцыя |
| Грамыка Міхаіл | пісьменнік | 12.11.1885 | 13.07.1930. | 30.06.1969. | Падмаскоўе (?) |
| Граніт Пятрусь (Івашэвіч Іван) | паэт | 24.01.1909. | арышт. неаднар. польс. ул. | 14.01.1980. | Гродзенская вобл. |
| Грахоўскі Сяргей | паэт | 24.09.1913. | 19.10.1936; 19.05.1949 | | Жыве ў Мінску |
| Грыб Тамаш | паліт. дзеяч, публіцыст | 19.03.1895 | 1919; 1920 | 25.01.1938. | Прага |
| **Грыневіч Антон** | **фальклярыст** | **03.05.1887** | **1921; 06.09.1933** | **08.12.1937.** | **Ленінград, НКУС** |
| **Грыневіч Клім** | **паэт** | **18.02.1912.** | **16.03.1933.** | **03.03.1941.** | **Магілёўская вобл.** |
| **Грыневіч Тамаш** | **паэт(?)** | **1815** | **1863** | **28.07.1863** | **Рагачоў** |
| **Грынкевіч Станіслаў** | **публіцыст** | **23.02.1901.** | **1936; 1940; ??.11.1944** | **25.07.1945.** | **Магілёў (?), НКУС** |

| *Прозвішча і імя* | *Від дзейнасці* | *Дата нарадж.* | *Дата(ы) арышту(аў)* | *Дата смерці* | *Месца смерці* |
|---|---|---|---|---|---|
| **Грышкевіч Францішак** | **пісьменнік** | **1904 ці 1906** | **??.07.1944** | **1946** | **Мінск, НКУС, самаг.** |
| Гурвіч Соф'я | мемуарыстка | 1861. | 1879; ??.07.1898 | 1934 (?) | ? |
| Гурло Алесь | пісьменнік | 31.01.1892 | 25.07.1930. | 04.02.1938. | Мінск |
| Гурскі Міхась | стыльрэдактар | 09.11.1890 | 23.07.1930. | пасля 1960 (?) | Мінск |
| **Гурын-Маразоўскі Міхаіл** | **журналіст** | **19.11.1891** | **1925.** | **16.03.1928.** | **Вільня** |
| Гурыновіч Адам | паэт | 25.01.1869 | 1893. | 1894. | Гродзенская вобл. |
| **Гуткоўскі Мікалай** | **юрыст, публіцыст** | **02.08.1886.** | **1930.** | **08.02.1938.** | **?** |
| **Дабулявічус Андрус** | **паэт** | **19.07.1898** | **1935; 17.10.1936.** | **20.06.1938.** | **Магадан (?)** |
| Даленга-Хадакоўскі Зарыян (Чарноцкі Адам) | славяназнавец | 24.12.1784. | 24.03.1809. | 17.11.1825. | Цвярская губерня |
| Далеўская Апалонія | мемуарыстка | 1841 | 1863 | 1915 | Варшава |
| Дамейка Ігнат | прыродазнавец, мемуарыст | 31.07.1802. | ??.11.1823. | 23.01.1889. | Сант'яга, Чылі |
| Данілаў Віктар | публіцыст | 20.07.1927. | ??.06.1948. |  | жыве ў Гродне |
| Данілевіч Аляксандр | публіцыст | 1877 | 1915 | 10.10.1949. | ? |
| Даніловіч Ігнат | гісторык | 1787 | 1823 | 12.07.1843 | Харкаў |
| **Данялюк Аляксандр** | **дз.рэв.руху ў Зах. Беларусі** | **30.11.1897** | **??.02.1937.** | **??.02.1937.** | **?** |
| **Даркевіч Пётр** | **мастацтвазнавец** | **1898.** | **?** | **04.11.1937.** | **?** |
| **Дарожны (Серада) Сяргей** | **паэт** | **25.02.1909.** | **29.08.1936.** | **19.07.1943.** | **Далёкі Усход** |
| Даўгапольскі Цодзік | пісьменнік | 11.08.1878 | 27.04.1938. | 16.07.1959. | Ленінград |
| **Даўгяла Дзмітрый** | **гісторык** | **01.11.1868.** | **10.12.1937.** | **1942 (?)** | **Казахстан** |
| **Дашкевіч Цыпрыян** | **філосаф** | **??.12.1803** | **1824** | **??.11.1829** | **Масква** |
| **Дварчанін Ігнат** | **паэт, перакладчык** | **08.06.1895** | **18.12.1917; 16.08.1933.** | **08.12.1937.** | **Ленінг. вобл., НКУС** |
| Дварэцкі Мікола | паэт | 06.09.1903. | 1928. | 15.08.1988. | Польшча |
| Дзекуць-Малей Лукаш | рэліг. дзеяч, перакладчык | 01.10.1888. | 13.02.1919; 19.06.1941 | 20.01.1955. | Гданьск, Польшча |
| Дзямідаў Мікола | ваен., паліт., гр. дз., публіцыст | 10.12.1888. | ??.06.1919. | 23.05.1967. | ЗША |
| Дземідовіч Павел | этнограф, педагог | 10.07.1871. | 1921. | 07.03.1931. | Мінск |
| Дзяргай Сяргей | паэт | 27.09.1907. | 15.03.1935; 1939 | 25.12.1980. | Мінск |
| **Дзяркач (Зіміёнка) Анатоль** | **паэт** | **08.04.1887** | **16.10.1936.** | **05.09.1937.** | **Мінск, НКУС** |
| Длускі Баляслаў | мемуарыст | ??.08.1826 | 1843 | 10.05.1905. | Кракаў |
| **Домбаль Тамаш** | **эканаміст** | **29.12.1890** | **1921; 29.12.1936** | **04.12.1938 (?)** | **Мінск, НКУС** |
| Доўбік Аляксандр | публіцыст | 06.07.1921. | 15.10.1958. |  | жыве ў Гродзенскай вобласці |
| **Дружчыц Васіль** | **гісторык** | **08.02.1886** | **14.01.1937.** | **20.12.1937.** | **Мінск, НКУС** |
| **Дубінскі Сяргей** | **археолаг** | **25.10.1884.** | **1937.** | **27.08.1937.** | **Мінск, НКУС (?)** |
| Дубоўка Уладзімір | паэт | 15.07.1900. | 20.07.1930; ??.11(?).1937; 16.07(?).1949 | 20.03.1976. | Масква |

| *Прозвішча і імя* | *Від дзейнасці* | *Дата нарадж.* | *Дата(ы) арышту(аў)* | *Дата смерці* | *Месца смерці* |
|---|---|---|---|---|---|
| **Дубровіч Алесь (Рэдзька А.)** | **паэт** | **1910.** | **??.11.1942** | **07.11.1942.** | **Віцебская вобласць** |
| **Дуброўскі Іларыён** | **журналіст** | **23.05.1907.** | **26.11.1936.** | **1937 (?)** | **ГУЛАГ (?)** |
| **Дудар (Дайлідовіч) Алесь** | **паэт** | **24.12.1904.** | **20.03.1929; 05.08.1930; 31.10.1936.** | **29.10.1937.** | **Мінск, НКУС** |
| Дудзіцкі (Гуцька) Уладзімір | паэт | 08.11.1911. | 23.02.1933. | пасля 1970 (?) | Нямеччына (?) |
| **Дунец Хацкель** | **крытык** | **1897** | **08.06.1936.** | **29.10.1937.** | **Мінск, НКУС** |
| Дунін-Марцінкевіч Вікенцій | паэт, драматург | 04.02.1808. | ??.10.1864. | 29.12.1884 | Мінская вобласць |
| **Дурнаво Мікалай** | **мовазнавец** | **04.11.1876** | **28.12.1933.** | **27.10.1937.** | **Архангельск. вобл.** |
| Душэўскі Клаўдзій | рэдактар | 27.03.1891 | 1921; 02.07.1940; ??.08.1943; 1952. | 25.02.1959. | Вільнюс |
| Дыбоўскі Бенядзікт | прыродазнавец | 11.05.1833. | 1863 ці 1864 | 31.01.1930. | Львоў |
| Дыбоўскі Уладзіслаў | заолаг, батанік, мінералог | 18.04.1838. | 1863 ці 1864 | 27.07.1910. | Навагрудчына |
| Дыла Язэп | пісьменнік | 14.04.1880 | ??.02.1919; 18.07.1930; 22.08.1938. | 07.04.1973. | Саратаў |
| **Дэмбінскі Генрык** | **публіцыст** | **30.07.1908.** | **1937** | **12.08.1941.** | **Беларусь** |
| Дэнель Баляслаў | публіцыст | 1830 | 1861 | 1863 | ? |
| **Езавітаў Кастусь** | **публіцыст** | **17.11.1893** | **??.01.1918; 1924; 26.04.1945.** | **23.05.1946.** | **Мінск, НКУС** |
| Ермаловіч Якуб | пісьменнік | 07.08.1910. | 02.10.1936. | 18.04.1987. | Мінская вобл. |
| Ермачэнка Іван | палітычны дзеяч | 13.05.1894 | 1943. | 25.02.1970. | ЗША |
| **Жалігоўскі Эдвард** | **паэт, філосаф** | **20.07.1816.** | **1851.** | **28.12.1864.** | **Сібір** |
| **Жарскі Генрых** | **пісьменнік** | **1902** | **20.01.1937.** | **14.10.1937.** | **Мінск, НКУС** |
| **Жаўрыд Павел** | **дз.бел.нац.руху** | **13.06.1889** | **1919; 18.07.1930; 1937.** | **14.05.1939.** | **Комі АССР** |
| **Ждановіч Фларыян** | **тэатральны дзеяч** | **28.10.1884** | **18.07.1930; 08.07.1937** | **22.10.1937.** | **Мінск, НКУС** |
| Жук-Грышкевіч Вінцэнт | пісьменнік | 23.02.1903. | 30.09.1939. | 14.02.1989. | Канада |
| Жукоўскі-Зільбер Меер | дз.рэв.руху | 23.08.1907. | 1936. | 07.03.1985. | ? |
| Жураўскі Караль | ксёндз | 1903 | 1940 | 1994 | Вроцлаў |
| **Журык Сцяпан** | **педагог, жывёлавод** | **24.08.1898** | **12.01.1933.** | **25.11.1938.** | **?** |
| **Жылка Уладзімір** | **паэт** | **27.05.1900.** | **19.07.1930.** | **01.03.1933.** | **Уржум, Кіраў. вобл.** |
| **Забела Мікалай** | **фалькларыст** | **1862** | **??.04.1883** | **1885** | **Сібір** |
| **Забела Тодар** | **гісторык** | **??.03.1896** | **24.07.1930.** | **>27.07.1935.** | **Татарская АССР** |
| Зайцаў Вячаслаў | літаратуразнавец | 18.09.1917. | 23.11.1978. | 19.04.1992. | Уладзімір, Расія |

| *Прозвішча і імя* | *Від дзейнасці* | *Дата нарадж.* | *Дата(ы) арышту(аў)* | *Дата смерці* | *Месца смерці* |
|---|---|---|---|---|---|
| Залескі Браніслаў | мастак, пісьменнік | 21.06.1820. | 1846. | 02.01.1880. | Францыя |
| **Замоцін Іван** | **літаратуразнавец** | **02.11.1873** | **04.04.1938.** | **25.05.1942 (?)** | **Горкі** |
| Зан Тамаш | паэт | 21.12.1796 | 1823. | 19.07.1855 | Кахачын, каля Оршы |
| **Зарэцкі (Касянкоў) Міхась** | **пісьменнік** | **20.11.1901.** | **03.11.1936.** | **29.10.1937.** | **Мінск, НКУС** |
| Захарка Васіль | паліт. дзеяч | 01.04.1877 | ??.01.1918 | 14.03.1943. | Прага |
| **Заяц Леанард** | **паліт.дз., мемуарыст** | **??.03.1890** | **19.07.1930; 25.07.1935.** | **23.09.1935.** | **Уфа** |
| Звонак Алесь (Пётр) | паэт | 14.02.1907. | 14.11.1936. | 02.02.1996. | Мінск |
| **Згіроўскі Антон** | **акцёр** | **06.02.1906.** | **1937.** | **1937.** | **?** |
| Здановіч Аляксандр | гісторык | 1805 | 1863 | 1868 | ? |
| **Здановіч Ігнат** | **публіцыст** | **1841** | **26.09.1863** | **21.12.1863** | **Вільня** |
| Зелязей Віктар | дз.нац.бел.руху | 08.06.1881 | 1908. | пасля 1951. | ? |
| **Знаёмы (Клопаў) Сяргей** | **журналіст** | **27.06.1909.** | **26.11.1936.** | **1944 (?)** | **ГУЛАГ (?)** |
| **Зюзькоў Андрэй** | **гісторык** | **26.09.1904.** | **26.11.1937.** | **28.06.1938.** | **Мінск, НКУС** |
| **Зямкевіч Рамуальд** | **бібліяфіл** | **07.02.1881.** | **1943 ці 1944** | **1943 ці 1944** | **Асвенцім (?)** |
| Зянковіч Фелікс | мемуарыст | 1842 | 07.08.1863 | 1910 | Пружаншчына |
| **Іваноўскі Вацлаў** | **грам. дзеяч, выдавец** | **07.06.1880** | | **расстраляны 07.12.1943 г.** | **у Мінску** |
| **Ігнатоўскі Усевалад** | **гісторык** | **19.04.1881** | | **04.02.1931.** | **Мінск, самагубства** |
| **Ільінскі Рыгор** | **мовазнавец** | **23.03.1876** | **1937** | **1937** | **Мінск, НКУС** |
| **Ільючонак Пётр** | **дзяржаўны дзеяч** | **12.02.1891.** | **16.02.1930; 04.07.1937. ??.01.1943.** | **27.06.1945 (?)** | **Тайшэтлаг** |
| **Ільяшэвіч Хведар** | **паэт** | **17.03.1910.** | **1927** | **07.11.1948.** | **Нямеччына** |
| Імшэнік Хведар | пісьменнік | 04.09.1884 | 15.07.1930. | ? | ? |
| **Іспраўнікаў Прохар** | **журналіст** | **16.03.05** | **1936 (?)** | **30.10.1937.** | **Мінск, НКУС** |
| **Каваленя Аляксандр** | **археолаг** | **05.03.1895.** | **1937.** | **27.08.1937.** | **Мінск, НКУС (?)** |
| Кавалеўскі Восіп | гістрык, мемуарыст, перакл. | 09.01.1801. | 1823. | 09.10.1878. | Варшава |
| Кавалік Сяргей | публіцыст, рэвалюцыянер | 25.10.1846 | ??.07.1874 (?) | 26.04.1926. | Мінск |
| **Каваль (Кавалёў) Васіль** | **пісьменнік** | **14.08.1907.** | **02.11.1936.** | **29.10.1937.** | **Мінск, НКУС** |
| **Кавальскі Уладзімір** | **паэт** | **21.10.1912.** | **1937 (?)** | **29.12.1937.** | **Мінск, НКУС** |
| Кавыль Міхась (Лешчанка Язэп) | паэт | 01.02.1915. | 23.02.1933. | | Жыве ў ЗША |
| Каганец Карусь | пісьменнік | 10.02.1868 | 19.12.1905; 1910.. | 20.05.1918. | Мінская вобл. |
| **Казакевіч Ян Станіслаў** | **публіцыст** | **1802** | **1838** | **1848** | **Сібір** |
| **Казлоў Фёдар** | **гісторык** | **28.02.1898** | **1937.** | **1941 (?).** | **?** |
| **Казлоўскі (Казлоўшчык) Уладзіс.** | **публіцыст** | **29.06.1896** | | **расстраляны 13.11.1943 г.** | **у Мінску** |
| **Каліноўскі Кастусь** | **рэвалюцыянер, публіцыст** | **02.02.1838** | **29.01.1864** | **22.03.1864** | **Вільня** |

